


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 11 (633)**
**Лістапад 2018 г.**


## Лепшая ў намінацыі "Нацыянальны строй"

Міжнародны конкурс прыгажосьці "Міс Дыяспара Мадэлс" прайшоў у Нью-Ёрку 12 кастрычніка 2018 году. Ад нашай беларускай дыяспары выступіла спартоўка і прыгажуня, дата-аналітык і вэб-інжынэр Аксана Кузьміцкая. Аксана перамагла ў намінацыі "Нацыянальны строй".

Гэты конкурс праводзіцца для кабетаў розных нацыянальнасьцяў, дапамагае іх асабістаму і кар'ернаму росту, матывуе таленавітых і прыгожых жанчынаў ва ўзросце ад 18 да 35 гадоў і ад 35 да 45 гадоў. Кожны год конкурс падтрымлівае мясцовую дабрачыннасьць і ахвяруе сродкі на розныя праграмы. Сёлета яны пайшлі на падтрымку арганізацыі па барацьбе з ракам *cancercare.org*.

Усяго ў конкурсе бралі ўдзел 20 прэтэндэнтак з 16 дыяспараў горада Нью-Ёрка (Вэнэсуэла, Францыя, Ямайка, Кітай, Беларусь, Індыя, Бразілія, Ірляндыя, Ангельшчына, Мэксіка, Расея, Бэліз, Філіпіны, Партугалія, Польша, Украіна).

Удзельніцы прэзэнтавалі нацыянальныя строі, вячэрнія сукенкі і бікіні. Канкурсанткі ня толькі дэманстравалі ўборы, але і свае чары і таленты, а таксама інтэлектуальныя здольнасьці. Напрыканцы трэба было выцягваць квіткі з пытаньнямі, што надало пэўную пікантнасьць імпрэзе. Аксане давялося адказваць на пытаньне: "Як ты рыхтавалася да конкурсу і чаму журы павінны абраць цябе сярод іншых прэтэндэнтак?"

Фінальны вынік фармаваўся па выніках анлайн-галасаваньня і балаў, што прысуджаюцца за кожны касцюм, уключаючы таксама балы за адказ на пытаньне.

Аксана дзеліцца сваімі ўражаньнямі: "Першы раз я брала ўдзел у такім конкурсе і дэфілявала на сцэне, таму ўражаньняў было вельмі шмат! Было вельмі цікава ды карысна паўдзельнічаць і пазнаёміцца з дзяўчатамі з розных краінаў, усе былі вельмі ветлівыя, шчырыя, старанныя, прыгожыя і цікавыя асобы.

***заканчэньне на бачыне 3***







# Кастрычніцкі сход Згуртаваньня "Пагоня"

У суботу, 13 кастрычніка, у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў чарговы, кастрычніцкі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Напачатку сходу старшыня арганізацыі, сп. Віталь Зайка, распавёў пра бягучыя справы арганізацыі ды імпрэзы, што плянуецца правесьці у бліжэйшы час.

Кіраўнічка групы "Беларусы ЗША. Разам лягчэй" сп-ня Ганна Шарко распавяла пра конкурс *Miss Diaspora Models International Beauty Competition*, які адбыўся напярэдадні, і прадставіла прысутным Аксану Кузьміцкую, удзельніцу, якая здабыла на тым конкурсе прыз у катэгорыі "Лепшы нацыянальны строй".

Затым перад прысутнымі выступіла сп-ня Ірына Какурына, прэзыдэнт кампаніі *Global Professional Consulting*, што прапануе шэраг паслугаў, зьвязаных з пытаньнямі адукацыі ў ЗША. Яна пазнаёміла прысутных з асноўнымі прынцыпамі пацьверджаньня (эвалюацыі) дыплёмаў з краінаў СНД і выбару прафэсіяў і навучаньня ў сфэры аховы здароўя, юрыспрудэнцыі ды іншых галінах. Сп-ня Какурына адказала на пытаньні прысутных і распаўсюдзіла сваю кантактную інфармацыю (адрас сайту: *http//www.globalconsulting-edu.com*)

Потым адбыўся сэмінар экспэртаў па вучобе і працы ў ЗША, гэтым разам прысьвечаны прафэсіям у галіне інфармацыйных тэхналёгіяў (IT). Формай прэзэнтаваньня інфармацыі былі кароткія гутаркі пра паскораную адукацыю і самаадукацыю ў галіне IT. Выступоўцы падзяліліся сваім досьведам вучобы ў IT-школах і на курсах для распрацоўшчыкаў і тэстэраў (QA-спэцыялістаў). Адзначалася, што на такія курсы могуць таксама запісацца і атрымаць веды таксама тыя, хто раней ня меў ніякай адукацыі (ступені) і нават досьведу ў IT-сфэры.

Былі абмеркаваныя кароткатэрміновыя праграмы (bootcamps) у Нью-Ёрку, што дапамагаюць людзям бесьперашкодна, без значных выдаткаў часу і фінансаў, уваходзіць у тэхнічную галіну і знаходзіць працу ў IT-сфэры. Кароткачасовыя праграмы займаюць звычайна ад 4 да 8 месяцаў вельмі інтэнсіўнай і часам стрэсуючай падрыхтоўкі, якая, тым ня менш, дае плён і акупляецца досыць хутка.

Вёў сэмінар сп. Аляксандар Мазгавы, які скончыў такую праграму і цяпер працуе ў галіне Web Development (Full-stack). У сэмінары таксама ўзялі ўдзел сп. Віталь Кучынскі – прайшоў курс самаадукацыі, працуе ў галіне Quality Assurance; сп-ня Аксана Кузьміцкая – скончыла онлайн-курс Гарварду, працуе Software Engineer у галіне Data Engineering-Data Science; сп. Яўген Іванюк – скончыў bootcamp, працуе ў галіне Mobile Dev on iOS; Вячаслаў Гехт – скончыў курсы пры Cooper's Union, займаецца Quality Assurance; і Тацяна Мароз – скончыла онлайн-курсы Партнова, bootcamp, працуе ў галіне Quality Assurance, на пасадзе Release manager.

Удзельнікі сэмінару адказалі на пытаньні, у прыватнасьці, як запісацца на bootcamps, якія кошты і тэрміны, як шукаць працу, ці карысны рэсурс LinkedIn і якія сайты лепей для пошуку працы – *Indeed, Ziprecrut, Indoor, Monster.com*. Закраналася пытаньне новых працаў у галіне кібэр-бясьпекі, якія цяпер плянуе стварыць муніцыпалітэт Нью-Ёрку, і ўжо абвешчаны набор на адпаведныя курсы.

Прысутныя падзякавалі ўдзельнікам сэмінару за інфармацыю, а ўсе зацікаўленыя маглі скантактавацца адносна больш прасунутай інфармацыі па адрасе: *bit.ly/belarusUS*.

Затым пасьля афіцыйнай часткі прысутныя мелі мажлівасьць камунікаваць з экспэртамі па больш канкрэтных пытаньнях і працягнуць знаёмства пры сьціплых пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**



*На здымку зьлева направа: А Мазгавы. В. Кучынскі, А. Кузьміцкая, Я. Іванюк, С. Гехт, Т. Мароз*

# Твань



Перабіраючы ў памяці савецкіх міністраў культуры БССР і аналізуючы дзейнасьць міністэрства за некалькі дзясяткаў гадоў, я не магу ўспомніць ні воднага выпадку, каб гэтае ведамства паспрыяла калі-небудзь беларускай культуры, нечаму новаму, творчаму, беларускаму. Асноўная функцыя савецкага міністэрства культуры заключалася ў дзеяньнях не пускаць, не рабіць, забараняць і ўсё гробіць.

Паколькі сыстэма, у прынцыпе, не зьмянілася, то і ўсе функцыі грабавога міністэрства і задачы выкананьня засталіся.

У панядзелак 8-га кастрычніка на нарадзе грамадзкасьці і прадстаўнікоў ведамстваў у Курапатах мы ўбачылі тое, што ўсім даўно вядома. Пытаньне было ў тым, каб ня ставіць чужародную канструкцыю ў якасьці афіцыйнага памятнага знака ад улады на Галгофе, і ўвогуле – у Народным Мэмарыяле. Чужародная канструкцыя выглядае дысанансам, разбурыць вобраз і сакральны дух Народнага Мэмарыялу. Прапанавана вынесьці яе за межы Курапатаў на спэцыяльную мэмарыяльную пляцоўку.

Была таксама кампрамісная прапанова – паставіць канструкцыю перад уваходам у Курапаты. З гэтым, у прынцыпе, пагаджаліся аўтары Знака (і зразумела, чаму: для канструкцыі месца перад уваходам лепшае). Вагаліся прадстаўнікі афіцыёзу. Можна было пайсьці на такі кампрамісны варыянт. Грамадзкая Дырэкцыя Народнага Мэмарыялу таксама не пярэчыла. Мог быць кансэнсус.

Але ж – не. Рогам уперлася прадстаўніца Міністэрства культуры. Усе ўбачылі тое, што і належыла ўбачыць – задумку разбурэньня Мэмарыяла праз дысананс і разьмяшчэньне Знака на Галгофе ды перадачы потым Знака і тэрыторыі вакол яго ва ўладнае ведамства. А яно ўжо, гэтае ведамства, зробіць з Курапатамі – як загадаюць. Міністэрства культуры тут выконвае задачу, бо антынародная ўлада пабудавана так, што ўсё зыходзіць ад адной асобы. (І мы ведаем гэтую асобу.)

У аўторак 9-га кастрычніка пачалі капаць катлаван пад "страшны" знак (бо ён сапраўды брыдкі і страшны).

Абавязкова неабходны грамадзкі пратэст. Нават, калі глядзець у будучыню, – патрэбны. Ён неабходны. Зараз Галгофу псуюць. Да ўсяго, да чаго датыкаецца гэтая рэжымная ўлада – усё ператвараецца ў брыдкасьць.

Звычайна, пры такім нахрапе ўлады праблема вырашаецца проста. Але для гэтага патрэбнае пакаленьне сьветлых 90-х гадоў. Прыходзяць некалькі тысяч людзей, ці нават некалькі сот з рыдлёўкамі – за пяць хвілін засыпаюць катлаван і кажуць усім выматвацца з Курапатаў разам з тэхнікай. На гэтым усё і скончыцца. Такое ўжо было ў 2002 годзе, калі экскаватар выкапаў глыбокую траншэю, мэтраў 30 даўжынёй, ад акружной дарогі проста пад Крыж Пакуты для адводу вады па трубе. Задума ўлады была такой: затапіць гэтую частку Курапатаў, зрабіць пад Крыжам твань і непрасыхаючае балота. Сябры КХП-БНФ напісалі ў Савет Міністраў, у дэпартамэнт Аўтамабільных дарог. Угаворы не дапамагалі. У іх былі "аргумэнты".

Тады прышло чалавек 30 мужчын з нашай партыі КХП–БНФ і за сьветавы дзень закапалі роў рыдлёўкамі. Прылятала міліцыя, прыехаў пракурор, начальства, КГБ, прывезьлі АМОН. Мужчыны сталі шчыльна і сказалі: ну, давайце, забараняйце. Толькі галовы рыдлёўкамі пашчапаем.

На гэтым скончылася. Траншэю закапалі рыдлёўкамі і параўнялі. Рыдлёўка, як і каса, – добрая прылада за свабоду і справядлівасьць. Прытым – рыдлёвак поўна. Толькі інсургентаў няма́шка.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*19 кастрычніка 2018 г.*

# Лепшая ў намінацыі "Нацыянальны строй"

***заканчэньне з бачыны 1***

Падтрымлівалі адна адну. Вельмі спадабалася дэфіле ў нацыянальных строях. Усе дзяўчаты падыйшлі да яго вельмі крэатыўна. Нават хацелася паназіраць на гэтае дэфіле як глядач з залі.

Я была шчасьлівая прадставіць нашую прыгожую краіну Беларусь у выдатным нацыянальным строі з вышыванкай ручной працы. За гэта шчырая падзяка спадарыні Валянціне Якімовіч.

Самы важны ўрок, які я атрымала ад удзелу ў гэтым конкурсе: трэба верыць у сябе, проста ісьці да сваіх мэтаў, нягледзячы на страхі. І не адмаўляцца ад выпадковых магчымасьцяў у сябе на шляху. У кожным разе перамога забясьпечана: або ты зразумееш свае памылкі і выправіш іх, будзеш мацнейшай і больш ўпэўненай, даведаешся больш пра сябе, або знойдзеш іншую важнейшую для сябе мэту. Яшчэ хочацца дадаць, што такія імпрэзы карысныя для абмену ведамі, досьведам і дабрынёю зь людзьмі, якія ў звычайным жыцьці наўрад бы сустрэліся."

Віншуем Аксану з такой выдатнай перамогай і зычым ёй посьпехаў у далейшых конкурсах.

Падзяка за нацыянальны строй і ўпрыгожаньні – Валянціне Якімовіч, а таксама дызайнэрам Anastasually by Anastasia Lazo і Вользе Банарцэвай (@olgabanartsev) за вячэрнія сукенкі і ўпрыгожаньні да іх.

***Падрыхтавана Ганкай з Глыбокага***



# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Адныя гронкі гневу

А як у нас там зь перакладамі амэрыканскай літаратуры на беларускую мову? Лёндан, Гэмінгўэй, Твэн, гэта, канешне, добра, але хто яшчэ? “Апошні з магіканаў” (з расейскай) Ф. Купэра, бо паскудныя амэрыканцы прыгнятаюць братоў нашых меншых – магіканаў. “Гронкі гневу” Дж. Стэйнбэка, камуністычны маніфэст амэрыканскага аўтара – а вы думалі, усе камуністы жывуць у Кітаі? “Па кім звоніць звон” Э. Гэмінгўэя, напісаны часткова на Кубе, раман пра змаганьне гішпанскіх бальшавікоў з франкістамі – іхны Ціхі Дон, толькі з наадварот. З нэйтральнай бытавухі “Забойства на вуліцы Морг” Э. По, “Белы ікал” Дж. Лёндана і яшчэ пара-тройка, а так у асноўным адныя “прагрэсіўныя”. Яшчэ да вайны найбольш друкавалі зусім бяздарнага М. Голда, затое актыўнага ўдзельніка камуністычнага руху ЗША. А дзе сярод гэтага ну хоць нешта больш-менш кансэрватыўнае, або неідэалягічнае?

Дзе антыфэміністычны раман “Прамінула зь ветрам” Маргарэт Мітчэл? Дзе паракансэрватыўныя і вялікія пісьменьнікі Натаніэль Готарн, Герман Мэлвіль, дзе, урэшце, бацька амэрыканскай літаратуры Вашынгтон Ірвінг са сваім “Рып Ван Вінклем”, або хаця й нэйтральны, але геніяльны “Вялікі Гэтсбі” Фрэнсіса Скота Фіцджэральда?

Гледзячы на тое, хто курыруе ўсе перакладныя сэрыі ў Беларусі, і што выдавалася або выдаецца ў розных, таксама нелітаратурных сэрыях тыпу “Адкрытае грамадзтва”, якія раз адкрыта, а раз закрыта, спансаруе Джордж Сорас і іншыя антычалавечыя фонды, праграмы і ўзнагароды іхнай вялікай прамысловасьці сьмерці, то вялікай надзеі пабачыць у блізкай пэрспэктыве вялікую амэрыканскую літаратуру на нашай мове ў нас няма. Думаю, так і застанемся ў відэафармаце са Стывенам Кінгам.

**Віталь ВОРАНАЎ**




### Уплаты ў Згуртаваньне
### Складкі й ахвяраваньні:

**Т. Бойка** .................. 60
**А. Генечка** ................ 60
**А. Міхалюк** ................ 60
**В. Радзько** ................ 60
**Т. Траскоўская** .......... 60

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” *Viktar Yedzinovich.***

**Аплаціць складкі можна таксама на штомесячных сходах арганізацыі.**

*Паважаныя **В. Аднавораў, А. Волкава, В. Галянкова і А. Сьвістун** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**
адбудзецца ў суботу **10-га лістапада 2018 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.
Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

**На сходзе адбудзецца прэзэнтацыя чарговага 12-га па ліку нумару літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа “Беларус” з удзелам аўтараў і выдаўцоў.**

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :

**Т. Бойка** .................. 30
**Т. Бэрд** .................... 30
**М. Бялко** .................. 30
**А. Генечка** ................ 30
**Я. Кацярыніч** ............ 30
**А. Міхалюк** ................ 30
**В. Радзько** ................ 30
**С. Рудкоўскі** .............. 30
**А. Сергіеня** ................ 30
**Т. Траскоўская** .......... 30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Рэдакцыя бясплатна надрукуе прыватныя абвесткі і будзе ўдзячная за дасланыя для друку артыкулы, водгукі й лісты.*